# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 7 (170)
ліпень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”



## У НУМАРЫ:

### “Справа Хведара Нюнькі” закрытая праз адсутнасць доказаў

У ліпені на адрас “Бацькаўшчыны” прыйшоў ліст, змест якога дае спадзеў на тое, што скандал вакол былога старшыні ТБК Хведара Нюнькі, які цягнецца ўжо два гады, урэшце сціхне.

Працяг на стар. 2

### Скарына супраць “Праўды”

Святкаванне Дня айчыннага друку мусіць быць перанесенае.

Працяг на стар. 4

### “Могілкі для гісторыка – натуральны аб’ект даследаванняў”

Гутарка з галоўнай рэдактаркай гістарычнага альманаха “Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва” пра незвычайныя аспекты гістарычнай памяці і спосабы яе захавання.

Працяг на стар. 5

### Ген крэатыўнасці абуджаны

Грамадская культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!” заклікае ствараць рэкламу і будаваць камунікацыю на грунце тысячагадовых каштоўнасцяў, закладзеных у нашых генах.

Працяг на стар. 8




Фота Яўгена Ерчака

# СЭЛФІ З ЗАПРУДНІКАМ

У мінскай бібліятэцы імя Пушкіна 28 чэрвеня прайшла сустрэча з патрыярхам беларускай эміграцыі.

Некалькі сотняў чалавек сабралася на прэзентацыю кнігі “Кантакты”, прысвечанай Янку Запрудніку – аднаму з “дванаццаткі”, гісторыку, дзеячу Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, айцузаснавальніку і кіраўніку амерыканскага аддзела “Радыё Вызваленне”, якое пазней сталася Беларускай рэдакцыяй “Радыё Свабода”. Сустрэча ладзілася Згуртаваннем “Бацькаўшчына”.

У жніўні 2016 года Запрудніку спаўняецца 90 гадоў, з гэтай нагоды спадар Янка з жонкай Надзеяй вырашылі наведаць Беларусь. Зразумела, з часоў незалежнасці сям’я Запруднікаў не раз прыязджала ў Беларусь, іх заўжды цёпла сустракалі. Але такога ажыятажу, ды яшчэ ў анамальную летнюю спёку, бадай, не чакалі ні Запруднікі, ні арганізатары вечарыны: у даволі вялікую, як на мінскія ўзоры, залу пушкінскай бібліятэкі людзі ішлі роўнай і шчыльнай плынню, і калі да пачатку імпрэзы заставалася хвілін пятнаццаць (то бок у той час, калі звычайна людзі толькі пачынаюць збірацца), у зале ўжо не было вольных крэслаў, таму наведнікі займалі хоць якое вольнае месца каля акна альбо ў праходзе.

“Маршалкавала” і “вяла рэй” на сустрэчы гісторык Наталля Гардзіенка. Яна, зрэшты, была і адной з аўтараў кнігі, якую многія наведнікі трымалі ў руках – “Кантакты”, якая якраз напярэдадні прыезду Янкі Запрудніка выйшла ў серыі “Бібліятэка “Бацькаўшчыны” і, нягледзячы на партрэт доктара Янкі на вокладцы, з’яўляецца чарговым праектам вядомага тандэму Наталля Гардзіенка / Лявон Юрэвіч. На рахунку гэтага тандэму ўжо не адзін дзясятак кніг: хоць і не адзначаныя ніякімі прэміямі – ні літаратурнымі, ні акадэмічнымі, Гардзіенка і Юрэвіч з’яўляюцца на цяперашні час найбольшымі актывістамі ў справе пашырэння ведаў пра паваенную эміграцыю. І на гэты раз матэрыялам для іх паслужылі найбагацейшыя амерыканскія калекцыі беларусістыкі і асабліва багаты эпісталярый эмігрантаў. У лістах, скіраваных да доктара Запрудніка з усіх канцоў “беларускага свету”, – і скаргі, і пытанні, без перабольшання сотні імёнаў беларусаў дыяспары і метраполіі, абмеркаванні надзённых пытанняў, актуаліяў у Беларусі і Амерыцы, Еўропе і Аўстраліі.

Эпіцэнтр самога ліставання і ўласна сустрэчы, Янка Запруднік, як і ў гэтай кнізе, так і на імпрэзе заставаўся нібыта “медыятарам”, мембранай, праз якую праходзілі токі беларускага жыцця на эміграцыі. У бібліятэцы Пушкіна сабраліся шматлікія ягоныя сябры і знаёмыя з часоў перабудовы і аднаўлення беларускай незалежнасці: Адам Мальдзіс, Станіслаў Шушкевіч, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Арлоў, Зьніч (Алег Бембель) і дзясяткі іншых.

Успамінамі пра сваю першую паездку за мяжу падзяліўся старэйшына беларускага літаратуразнаўства Адам Мальдзіс – гэта быў канец брэжнеўскай эпохі, калі загадчык аддзела культуры ў ЦК КПБ Іван Антановіч запрасіў даследчыка паехаць у “логава імперыялізму” па пуцёўцы ЮНЕСКА.

Працяг на старонцы 2.

навіны "Будзьма!"

# СЭЛФІ З ЗАПРУДНІКАМ

Працяг са старонкі 1.

Былі і інструктажы, і страх, і знаёмства з Антонам Адамовічам, і кур'ёзы, кансультацыі з савецкімі амбасадарамі – паводле аповедаў Мальдзіса даўно варта здымаць поўнаметражныя фільмы, настолькі яркія выходзяць сцэнарыі. "Замежныя беларусы будуць мне для розных радыёстанцый задаваць пытанні, пытанні, пытанні, а я прыеду ў Беларусь і мяне – пад рукі, пад рукі, пад рукі", – акрэсліў тагачасны свой стан Мальдзіс. Тым не менш, гэтая паездка-вылазка растапіла лёд паміж эміграцыяй і метраполіяй. "Ды і часы паціху змяняліся", – урэшце прыгадаў Мальдзіс, хоць наколькі сур'ёзна яны зменяцца, не ведалі, бадай, ні на адным баку мяжы.

Пра канчатковую змену часоў распавёў акадэмік Радзім Гарэцкі, адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Яго знаёмства з беларускай дыяспарай адбылося якраз тады, калі нарэшце наведаць Радзіму свабодна мог кожны эмігрант: "Мы сустракалі іх – адны баяліся, другія цалавалі зямлю, трэція плакалі". Пасля доўгага расстання і поўнага адмаўлення і шальмавання ў беларускім друку, дзеячы дыяспары літаральна ў некалькі гадоў сталіся галоўнымі ньюсмэйкерамі для новапаўсталых незалежных беларускіх СМІ. Аднымі з найважнейшых "спікераў" былі якраз сем'і Запруднікаў і Кіпеляў, якія актыўна выступалі, ездзілі па Беларусі, удзельнічалі ў канферэнцыях і кангрэсах, у тым ліку – і найперш – у з'ездах беларусаў свету. "Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель – вось нашы найбліжэйшыя сябры ў той час. Калі палітычная сітуацыя змянілася, яны настойвалі на тым, каб, нягледзячы на цяжкасці, не паддавацца і праводзіць з'езды дыяспары менавіта ў Мінску".

Тут, у Мінску, сустрэўся з Янкам Запруднікам і пісьменнік Уладзімір Арлоў, які ў той час працаваў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", што распачало серыю "Галасы беларускага замежжа", упершыню выпускала ў Мінску кнігі дзеячаў эміграцыі. Арлоў распавёў і пра сваё падарожжа па Амерыцы, дзе Запруднік стаўся своеасаблівым правадніком, чалавекам, які адкрываў іншым новую краіну: "Янка Запруднік – прыклад інтэлектуальнага лідара, які не проста захоўваў, але і павялічваў наш беларускі нацыянальны космас. Выпускаючы ў 1996 годзе ў Мінску сваю кнігу "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях", спадар Янка дапісаў вялікі раздзел пра новую антыдэмакратычную сітуацыю, але ён быў выкінуты выдаўцамі і застаўся толькі ў частцы тыражу. Спадзяюся, што неўзабаве гэтая кніга будзе перавыдадзеная ў поўным аб'ёме, бо, як кажа спадар Мальдзіс, часы паціху змяняюцца".

Уражаннямі пра кнігі Янкі Запрудніка і сустрэчы з ім падзяліліся таксама Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (дзе найбольш поўна, дзякуючы Янку Запрудніку, Вітаўту Кіпелю і Лявону Юрэвічу, прадстаўленая цяпер архіўная спадчына творцаў паваеннай эміграцыі); паэт і манах а. Іаан, Зьніч (Алег Бембель), які першыя свае кнігі выдаў пры падтрымцы беларускай дыяспары ў Амерыцы, Англіі і Польшчы; першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, кнігазнаўца Валер Герасімаў. Напрыканцы імпрэзы надарыліся прыемныя моманты – уручэнне дыпломаў лаўрэатаў конкурсу на лепшае эсэ, які праводзіўся ЗБС "Бацькаўшчына" і ў якім адным з сябраў журы быў менавіта Янка Запруднік. Самая ж арганізацыя, у асобе Алены Макоўскай, атрымала з Нью-Ёрка ганаровую падзяку Беларускага інстытута навукі і мастацтваў за актыўнае пашырэнне ведаў пра беларускае замежжа.

Урэшце слова было дадзена і галоўнаму герою вечарыны, Янку Запрудніку, паўтары сотні чалавек слухалі яго ў поўнай цішыні: "Апошнім часам мы маем шмат гутаркі пра дзве душы беларуса, пра яе дваістасць. Душа беларуса мае два аспекты. Адзін пакутніцкі, другі – надзейны. Пакутніцкая душа, прыехаўшы сюды, адчувае боль, таму што яна не чуе музыкі беларускай мовы з вуснаў малых дзетак. Але душа адпорная на цяжкасці, ёсць аспект надзеі ў ёй, і ён трымае нас пры працы, пры намаганнях, пры надзеі, што гэтыя намаганні недарэмныя".

Пасля заканчэння вечарыны спадар Янка яшчэ паўтары гадзіны мужна падпісваў кнігі, фатаграфаваўся на памяць, даваў інтэрв'ю, не адмаўляў і аматарам сэлфі. На памяць прыходзілі параўнанні з нядаўняй сустрэчай са Святланай Алексіевіч, якую разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў арганізоўвала Беларуская служба "Радыё Свабода" – і ў гэтым таксама было два аспекты: боль ад таго, што сваіх інтэлектуальных лідараў людзі не могуць пабачыць гадамі і надзея на тое, што "часы змяняюцца".

**Ціхан Чарнякевіч, Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!"**



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў жніўні: Уладзіміра Арлова (Беларусь), Насту Дашкевіч (Беларусь), Адама Мальдзіса (Беларусь), Валерыя Санько (Беларусь), Алега Трусава (Беларусь), Яраслава Іванюка (Польшча).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця поспехаў у працы.

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "СПРАВА ХВЕДАРА НЮНЬКІ" ЗАКРЫТАЯ ПРАЗ АДСУТНАСЦЬ ДОКАЗАЎ

У ліпені на адрас "Бацькаўшчыны" прыйшоў ліст ад сябра Рады Таварыства беларускай культуры ў Літве Леакадзіі Мілаш, змест якога дае спадзеў на тое, што скандал вакол былога старшыні ТБК Хведара Нюнькі, які цягнецца ўжо два гады, урэшце сціхне.

Нагадаем, што ў верасні 2014 года з ініцыятывы сябра ТБК Аляксандра Адамковіча адбылося тэрміновае пазачарговае пасяджэнне Рады ТБК, па выніках якога старшынства перайшло да апошняга, а Хведар Нюнька, які ўзначальваў арганізацыю ад самага ўстаноўчага сходу ў 1989 годзе, зрабіўся галоўным фігурантам крымінальнай справы: група сяброў ТБК накіравала позвы ў крымінальную паліцыю, пракуратуру і суд, вінавацячы былога старшыню ў фінансавых махінацыях. Неўзабаве распачалося і публічнае цкаванне: на адрасы беларускіх арганізацый, на прыватныя адрасы беларусаў замежжа, у сродкі масавай інфармацыі пачалі прыходзіць лісты, якія ачарнялі асобу Хведара Нюнькі і мелі на мэце паставіць пад сумнеў плён ягонай дваццаціпяцігадовай працы. А між тым, дзякуючы намаганням ТБК пад кіраўніцтвам спадара Хведара, у Вільні працуе беларуская гімназія, усталяваныя мемарыяльныя дошкі і помнікі на магілах беларускіх дзеячаў, на Лукішскім пляцы захаванае месца, на якім быў забіты Кастусь Каліноўскі, а ў гонар знакавых для беларусаў асобаў названыя некалькі вуліц у Вільні. Тады ў абарону гонару і годнасці спадара Хведара Нюнькі – аднаго з заснавальнікаў і сябры Рады "Бацькаўшчыны", сябры Рады БНР – у адкрытых лістах выказаліся МГА «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"», Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, ганаровы сябра ТБК Літвы акадэмік Радзім Гарэцкі, рэдактар Нью-Ёркскай газеты "Беларус", старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Ганна Сурмач. Не выявіўшы злачынных дзеянняў, у 2015 годзе адхіліла позву і літоўская пракуратура.

Не здаволіўшыся такім вынікам, апаненты Хведара Нюнькі падалі апеляцыю. Распачалося новае расследаванне. І вось нарэшце, 29 чэрвеня 2016 года, прыйшоў адказ, падпісаны суддзёй: справа закрытая праз адсутнасць доказаў.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

гутарка

# ЯНКА ЗАПРУДНІК: “МАЯ ДРУГАЯ ЖОНКА ВЕЛЬМІ ДОБРА МЯНЕ ДАГЛЯДАЕ”

Якія практыкаванні дазваляюць 90-гадоваму Янку Запрудніку выглядаць на 60? Якім чынам ён перадаваў інфармацыю праз “жалезную заслону”? Як Ватыкан трапіць з англійскай шахты ва ўніверсітэт? На гэтыя і іншыя пытанні адказаў грамадска-палітычны дзеяч, гісторык і палітолаг Янка Запруднік, патрыярх беларускай дыяспары ў Амерыцы.

**– Спадар Запруднік, вам амаль 90 гадоў, а выглядаеце вы на 60. У чым ваш сакрэт?**

– Фактараў шмат. Гэта заслуга бацькоў, бо гены вельмі ўплываюць на лёс чалавека. Лад жыцця: паліць я кінуў у студэнцкім веку, гарэлкай не злоўжываў. Аптымістычна гляджу на жыццё, не зважаючы на цяжкасці. Надзя, мая другая жонка, з якой я ўзяў шлюб у 1995 годзе, вельмі добра мяне даглядае. Мы абое заўсёды заняты нейкай творчай дзейнасцю. Дзякуючы медыцынскай страхоўцы маем добрае медыцынскае забеспячэнне.

**– З чаго складаецца ваш звычайны дзень?**

– Дзень пачынаецца ўключэннем камп’ютара і праглядам незалежных беларускіх сайтаў. Кожны дзень – The New York Times. Надзя цікавіцца навуковым і кулінарным раздзеламі, я – палітыкай. Далей сняданак, напрыклад, дранікі. Люблю аўсянку. Некалі ласаваўся каўбасой, але ў апошнія гады наперад выйшлі малочныя і рыбныя прадукты. Раз на два тыдні зазіраем у кітайскі рэстаран. А потым пачынаецца звычайны дзень, напоўнены інтэлектуальнымі і фізічнымі заняткамі.

**– Што вы разумееце пад фізічнымі заняткамі?**

– Мы рэгулярна наведваем спартыўны клуб. Штодня раблю прысяданні, бо трэба даглядаць ногі. Як дажывеш да 90 гадоў, зразумееш. Што да інтэлектуальнага, дык мы з жонкай спяваем у царкоўным хоры. Нядзеля ідзе на богаслужэнне, на сустрэчу з сябрамі. Жывеш нечым, у чым маеш цікаўнасць. Наша цікаўнасць – у беларушчыне наогул.

**– Паслухаеш, дык проста райскае жыццё! Навошта вы да гэтага часу працуеце і пішаце кнігі?**

– Для гэтага патрабуецца адпаведны палітычны рэжым. Ты хочаш нешта зрабіць, апублікаваць, сказаць, і ў цябе няма ніякіх перашкод. Узнікае адчуванне свабоды, асабліва ў жаданні рэалізаваць нейкія праекты.

**– Гады “халоднай вайны” ў мяне асацыююцца з “жалезнай заслонай”. Сваякі, што жылі па яе розныя бакі, не маглі сустракацца. Ці кантактавалі вы з роднымі?**

– Калі я ў 1944 годзе выязджаў на Захад, не змог паведаміць пра тое бацькам. Пасля вайны знайшоў спосаб з імі камунікавацца. Праз агульных знаёмых у Польшчы я перадаваў маці то сурвэтку, то хустку, каб паведаміць, што жывы. Пазней паведамляў пра сябе праз стрыечную сястру, якая жыла ў Польшчы. Але асабіста пабачыцца я не змог. Маці памерла ў 1981 годзе. Бацька загінуў яшчэ падчас вайны, змагаючыся на савецкім баку. Таму змог сустрэцца з братам, які і цяпер жыве ў Баранавічах. Натуральна, я мог бы яму напісаць. Але ліст з-за мяжы ад сваяка, які займаецца антысавецкай дзейнасцю, яму толькі нашкодзіў бы.

**– Ваша сапраўднае імя – Сяргей Вільчыцкі. Вы ўзялі псеўданім для канспірацыі?**

– Янка Запруднік – не псеўданім. Гэта прозвішча, якое я атрымаў з-за абставін пасляваеннага часу. Я трапіў у лагер для перамешчаных асоб. Даваць адпаведны статус мне не хацелі. Але ў лагеры быў нейкі Запруднік, на шэсць гадоў старэйшы за мяне, які выехаў, але яго не выкраслілі са спісаў. Мне прапанавалі жыць з ягоным прозвішчам. Усё роўна не карыстаўся б сапраўдным, бо працаваў на “Радыё Свабода”. Не хацелася падстаўляць сваякоў.

**– Як вы трапілі на “Радыё Свабода”?**

– Пачыналася ўсё з працы на англійскай шахце. Мы знаходзіліся пад зямлёй, у забоі. Разам са мной працавала яшчэ 11 беларусаў. З кожнай зарплаты мы адкладалі грошы ў агульную касу. За гэтыя сродкі выпускалі свой часопіс “Наперад!” і рассылалі яго па лагерах перамешчаных асоб, дзе жылі беларусы. Так пра нас даведаліся. Потым старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык і адзін бельгіец, пляменнік старшыні мясцовага парламента, здабылі для беларусаў стыпендыі для навучання ў Лювенскім універсітэце. Частка гэтых стыпендый была з Ватыкана, частка ад бельгійскага Камітэта дапамогі беларускім студэнтам. Дзевяць з дванаццаці чалавек паступілі. Мне прапаноўвалі застацца выкладчыкам на гістарычным факультэце, пісаць доктарскую дысертацыю. Але тады пачала працаваць радыёстанцыя “Вызваленне” (так спачатку называлася “Свабода”). Рада БНР, якая дабілася беларускамоўнага вяшчання, спадзявалася на пэўную салідарнасць з нашага боку. Таму мы падпарадкаваліся дысцыпліне.

**– Ладны кавалак вашага жыцця прайшоў за акіянам. Чаму вы пераехалі ў ЗША?**

– Я не пакідаў надзеі напісаць доктарскую працу, але пры маёй зарплаце зрабіць тое ў Мюнхене было нерэальна. Тым часам на радыё “Вызваленне” працавалі людзі з-за акіяна, іх зарплата была больш высокая. У аддзеле кадраў мне адказалі, што гэтыя людзі прыехалі з Амерыкі, пакінуўшы там магчымасці для кар’ернага росту ў зарплаце. Я прапанаваў: “Дык і я паеду за акіян, а потым адтуль вярнуся”. Мне ў адказ: “Калі паедзеш у Амерыку, мы разрываем кантракт”. Але я адчуваў, што ўладкуюся там. Звольніўся, узяў сям’ю і паехаў. Неўзабаве мяне зноў узялі ў штат радыё, але ўжо ў амерыканскую студыю. А праз пэўны час я абараніў пры Нью-Ёркскім універсітэце дысертацыю.

**– Якія вашы ўражанні ад сёлетняй паездкі?**

– Апошні раз мы былі на радзіме тры гады таму. За гэты час шмат чаго змянілася да лепшага: добрыя гатэлі, магчымасць падмацавацца па дарозе, надпісы па-англійску, магазіны, абслугоўванне, чыстыя дарогі. Праўда, ад людзей чуем горшае. Эканамічныя цяжкасці, маленькія пенсіі і высокія кошты.

**– А як людзі рэагуюць на беларускую мову?**

– Назіраюцца вялікія змены. Ні ад каго не пачулі варожай рэакцыі. Калі мы першы раз прыехалі ў Беларусь, многія людзі сваю незадаволенасць вылівалі на нас. У грамадстве панавала думка, што ва ўсім вінавата Амерыка, мы чулі фразы: “Разговаривайте на человеческом языке”. Цяпер на цябе глядзяць як на нармальнага чалавека. Іншая справа, што мы не чулі роднай мовы з вуснаў малых дзетак. За гэта нам баліць душа. Нельга сказаць, што варажнеча супраць беларускай мовы ў грамадстве цалкам знікла. Можа, яна паслабленая пад уздзеяннем моладзі, якая шануе нацыянальную культуру? Так хочацца ў гэта верыць!

**Дзяніс Марціновіч, “Народная воля”.**
**Надрукавана ўскароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**



Андрэй Федарэнка, Барыс Пятровіч, Алена Макоўская, Надзя Запруднік, Янка Запруднік

навіны ЗБС “Бацькаўшчына”

# ЯНКА І НАДЗЕЯ ЗАПРУДНІКІ НАВЕДАЛІ “БАЦЬКАЎШЧЫНУ”

У ліпені доктар Янка Запруднік разам з жонкай Надзеяй, пасля прэзентацыі кнігі “Кантакты”, знайшоў час, каб разам з жонкай Надзяй наведаць сядзібу Згуртавання “Бацькаўшчына” і Саюза беларускіх пісьменнікаў ды ў нефармальных абставінах падзяліцца сваімі ўражаннямі ад візіту на Радзіму, а таксама пагутарыць пра праблемы ды парадоксы беларускага незалежнага кнігавыдання.

Янка Запруднік пажадаў “Бацькаўшчыне” і надалей “лучыць беларусаў свету жывымі кантактамі”.

“Без бацькаўшчыны няма будучыні! Дзякуй вам за выдатную працу, якую вы робіце тут, каб мы не губляліся ў дыяспары, – сказаў патрыярх беларускай эміграцыі на развітанне, і з жартам дадаў: – І заўсёды каб былі ў беларускім цэнтры душой, а па магчымасці – і целам”.

**Інфармацыйны цэнтр**
**МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”»**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# СКАРЫНА СУПРАЦЬ "ПРАЎДЫ"

Святкаванне Дня айчыннага друку мусіць быць перанесенае.

Шэраг грамадскіх арганізацый – Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларускі саюз мастакоў, Беларускі саюз дызайнераў, Таварыства беларускай мовы – звярнуліся да вышэйшых органаў улады Рэспублікі Беларусь з прапановай аб пераносе святкавання Дня друку з 5 мая на 6 жніўня.

Сучасная Беларусь нават праз чвэрць стагоддзя ад здабыцця незалежнасці працягвае святкаваць дзень айчыннага друку 5 мая, арыентуючыся на выхад першага нумару партыйнага органа РСДРП(б) – газеты "Правда" ў 1912 годзе. Гэта выглядае на недагляд ці непаразуменне, асабліва калі прыняць да ўвагі, што нават Дзень расійскага друку ў Расійскай Федэрацыі адзначаецца 13 студзеня і прымеркаваны да дня выхаду першага нумару газеты "Ведомости" ў 1703 годзе.



БИВЛИЯ РУСКА
выложена доктором
франциском Скориною
из славнаго града По
лоцька, богу кчти и
людем посполитым
к доброму наученью

Беларусь, такім чынам, адзіная з усіх постсавецкіх краін працягвае савецкую завядзёнку. А між тым традыцыя беларускага кнігадрукавання займае ці не самыя ганаровыя старонкі нацыянальнай і еўрапейскай гісторыі, сягаючы аж на пяць стагоддзяў у даўніну.

Першую друкаваную кнігу беларусы атрымалі 6 жніўня 1517 года. Пераклад на старабеларускую мову біблійнай кнігі "Псалтыр", пра які вядзецца гаворка, быў здзейснены і надрукаваны асветнікам Францыскам Скарынам у Празе і стаўся не толькі адным з першых перакладаў Бібліі на жывую мову, але і самай першай усходнеславянскай друкаванай кнігай наогул. Пра маштаб падзеі сведчыць яшчэ і той факт, што французскі, англійскі і польскі пераклады ўбачылі свет пазней.

У наступным 2017 годзе беларуская грамадскасць будзе шырока адзначаць 500-годдзе беларускага друку. І тым больш мэтазгодным становіцца перанос Дня айчыннага друку, прафесійнага свята для супрацоўнікаў газет, часопісаў, кніжных выдавецтваў і друкарняў, на 6 жніўня. Такім чынам нарэшце перарвецца кур'ёзная завядзёнка дзеля гістарычна абумоўленай традыцыі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны

# ВАТЫКАНСКІЯ АРХІВЫ АДКРЫЛІ НОВЫЯ ЗВЕСТКІ ПРА СКАРЫНУ

Новыя звесткі пра Францішка Скарыну адшукаў Алесь Жлутка, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Беларусі.

Даследчык удакладніў сувязь першадрукара з V Латэранскім саборам, менавіта туды прыбыла дэлегацыя дацкага караля, у складзе якой быў нейкі Скарына. А праз тры месяцы ўжо дакладна Францішка Скарыну пры абароне доктарскай працы ў Падуі называюць сакратаром дацкага караля Ганса. "Ці аб адной і той жа асобе ідзе гаворка ў розных крыніцах?" – задаўся пытаннем навуковец.

Падчас працы ў Ватыканскім архіве Алесь Жлутка знайшоў дакументы, у якіх сакратар дацкага караля паведамляе аб тым, што да V Латэранскага сабора жадае далучыцца маскоўскі цар. Высветлілася, што перад 1508 г. Ёган прымаў у сябе дэлегацыю ад маскоўскага цара і ў ходзе перамоў спрабаваў дамовіцца з Васілём III аб паяднанні Цэркваў. У 1509 г. да дацкага двара прыбыла дэлегацыя польскага караля і Вялікага князя Жыгімонта, у падданстве якога на землях Беларусі і Украіны былі праваслаўныя і дзе дакументацыя вялася на лаціне і старабеларускай. Можа Скарына быў патрэбны дацкаму каралю ў якасці сакратара для дыпламатычных зносін з Жыгімонтам і Васілём III і такім чынам выконваў экуменічную місію ў справе паяднання дзвюх галін хрысціянства? Вельмі верагодна, што ў Даніі ён і атрымаў медыцынскую адукацыю, каб пасля абараніць дактарат па медыцыне ў Падуі.

Тое, што Скарына мог быць непасрэдным удзельнікам дацкай дэлегацыі на V Латэранскі сабор – вельмі важная акалічнасць, лічыць Алесь Жлутка: "Пашыраецца дыяпазон яго асобы, дыяпазон перамяшчэнняў Скарыны па Еўропе. Гэта кажа аб тым, што ён быў асобай рэнесанснага тыпу. Яго дзейнасць у экуменічным кірунку сведчыць аб шырыні светапогляду, аб яго адкрытасці. Тое, што ён мог удзельнічаць у справе паяднання падзеленых частак хрысціянства напярэдадні новага падзелу, які несла блізкая Рэфармацыя, надае яшчэ большую веліч ягонай постаці".

**Паводле "Ватыканскае радыё"**

навіны

# ЖЫВОЕ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА Ў ЗААКІЯНСКАЙ ПРАСТОРЫ

10 ліпеня ў грамадскай зале сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адбылася творчая сустрэча з Ірынай Шумскай (Хадарэнка), пісьменніцай і даследчыцай у галіне культуралогіі.



Падчас мерапрыемства прагучалі вершы паэтэсы розных гадоў, а таксама празаічны твор, напісаны падчас працяглага побыту ў амерыканскай сталіцы. Апроч таго, прадстаўнікам беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку была прэзентавана англамоўная кніга "Distinctive Belarus. On the Roads of Dukes, Magnates, and Poets" ("Самабытная Беларусь. Дарогамі князёў, магнатаў і паэтаў"), над якой аўтарка працавала амаль год і якая паспела атрымаць станоўчыя водгукі не толькі ад тых, хто цікавіцца нашай гісторыка-культурнай спадчынай, але і з боку прадстаўнікоў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, якія палічылі неабходным распаўсюдзіць дадзенае выданне па беларускіх амбасадах за мяжой.

Імпрэза праходзіла ў таварыскай атмасферы, суправаджалася пачастункамі і апладысментамі. Нягледзячы на выходны дзень і спякотнае надвор'е, прысутных было досыць шмат, а некаторыя з іх нават узялі актыўны ўдзел у распачатай напрыканцы дыскусіі наконт актуальнага становішча і перспектыў развіцця беларускай культуры і мовы як непасрэдна ў роднай краіне, так і ў свеце.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**



Алесь Разанаў і Алесь Бяляцкі

Фота з Фэйсбуку Алеся Бяляцкага

навіны

# ЛІТВА ЎЗНАГАРОДЗІЛА АЛЕСЯ РАЗАНАВА ОРДЭНАМ З "ПАГОНЯЙ"

Такую ўзнагароду паэт атрымаў ад літоўскага Міністэрства замежных спраў за пераклады з літоўскай мовы на беларускую.

Урачыстае ўзнагароджанне адбылося 7 ліпеня, падчас святкавання Дня каранацыі Міндоўга ў амбасадзе Літвы ў Мінску.

Атрымаўшы ордэн, Алесь Разанаў выступіў перад амбасадарам Эвалдасам Ігнатавічусам на літоўскай мове.

Алесь Разанаў – беларускі пісьменнік, перакладчык з літоўскай, латышскай, грузінскай, балгарскай, сербскай, чэшскай, англійскай моў.

**"Радыё Свабода"**

гутарка

# НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА: "МОГІЛКІ ДЛЯ ГІСТОРЫКА – НАТУРАЛЬНЫ АБ'ЕКТ ДАСЛЕДАВАННЯЎ"

Пабачыў свет новы выпуск гістарычнага альманаха "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва". Тэма нумара – "Памяць". Да альманаха прыкладаюцца ўкладзенае галоўнай рэдактаркай "Запісаў" Наталляй Гардзіенка мультымедыйнае выданне "Віртуальны нэкропаль: Беларускія могілкі ў сьвеце". Гутарку з ёй пра незвычайныя аспекты гістарычнай памяці і спосабы яе захавання мы радыя прапанаваць да вашай увагі.

**– "Віртуальны нэкропаль" і Ваш артыкул "Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі" прыцягваюць увагу нязвыкласцю аб'екта даследавання.**

– Могілкі для гісторыка – натуральны аб'ект даследаванняў, як і любое сведчанне чалавечай дзейнасці. У Беларусі ёсць даследаванні пахавальнай культуры, але ў дачыненні эміграцыйных пахаванняў іх амаль няма. А тое, як і дзе хавалі беларусаў у замежжы, дапамагае зразумець, чым жылі беларускія эміграцыйныя грамады. Цікава суадносіць пахаванні беларусаў у Беларусі і ў замежжы. Гэта можа быць асобнай важнай тэмай для даследавання.

**– Хто займаецца дакументаваннем такой інфармацыі?**

– Збіраннем звестак пра беларускія пахаванні ў Еўропе актыўна займалася Беларуская нацыянальная памяць. Часам можна спаткаць звесткі пра асобныя магілы, прыкладам, Міколы Равенскага ў Бельгіі, Міколы Абрамчыка ў Парыжы, пра беларускія пахаванні на Монтэ Касіна… Аднак абагульняльных ці аналітычных публікацый па замежных беларускіх пахаваннях дасюль не было. Мы выступаем тут як піянеры. У палякаў, расейцаў, украінцаў працы пра эміграцыйныя пахаванні – даволі частая з'ява. Гэта тлумачыцца больш колькаснымі эміграцыйнымі грамадамі. Вывучэннем эміграцыі там займаюцца цэлыя інстытуты. У нас жа гэта па-ранейшаму справа энтузіястаў-адзіночак.

**– Па якім прынцыпе магілы ўключаюцца ў спісы?**

– Мы арыентаваліся менавіта на эміграцыйныя пахаванні: асобы, якія самі пазначаюць сябе як беларусы, у тым ліку і на надмагіллях. Гэта можа быць беларуская мова эпітафіі, або сімволіка, або сам факт пахавання на беларускім могільніку, хоць багата беларусаў карыстаюцца ў эпітафіях і англійскай, і рускай. Важная і вядомасць для нас прозвішча ўдзельніка грамады.

**– Пераважная большасць магіл з базы месцяцца ў ЗША, Вялікабрытаніі ды Аўстраліі, але кідаецца ў вочы колькасць магіл Польшчы ды Чэхіі – адзінкі. З чым гэта звязана?**

– Аснову базы склалі пахаванні з менавіта беларускіх могільнікаў і беларускіх секцый агульных могільнікаў там, дзе былі найбольш кампактныя беларускія асяродкі: у ЗША (Саўт-Рывер, Іст-Брансвік, Кліўленд), у Аўстраліі (Мельбурн, Сідней, Перт) ды ў Вялікабрытаніі (Лондан, Манчэстэр). У іншых краінах даводзілася шукаць асобныя магілы на вялікіх шматэтнічных могільніках. А гэта надзвычай складана, звестак пра тамтэйшыя пахаванні значна меней. Што ж датычыць Польшчы, то ўключаць у базу могілкі з Беласточчыны, прыкладам, было немэтазгодна, а ўключаныя ў базу колькі варшаўскіх пахаванняў таксама выклікаюць пытанні з пункту гледжання аднясення да эмігрантаў. Гэта хутчэй падстава для выпрацоўкі ў будучыні нейкай больш выразнай канцэпцыі для шырэйшага "Віртуальнага нэкропаля".

**– З якімі складанасцямі сутыкаецца даследчык, які займаецца пошукам беларускіх пахаванняў за мяжой?**

– Найбольшая складанасць – геаграфічная аддаленасць. Пошукі па-за ўласна беларускімі могільнікамі вымагаюць багата часу. Аднаму чалавеку гэта зрабіць вельмі складана, звесткі збіраліся цягам дзесяцігоддзяў. Нават пра вядомых дзеячаў эміграцыі часам няма звестак аб месцы пахавання, а блукаць сярод дзясяткаў тысяч магіл можна тыднямі. Яшчэ складанейшы пошук, калі нават назву могілак не ведаеш. Прыкладам, на сёння няма дакладных звестак пра пахаванне Язэпа Варонкі, што памёр каля Чыкага. Дапамагае ў пошуку развіццё тэхналогій, генеалагічныя анлайн сэрвісы. Калі будзе магчымасць рабіць дакладныя электронныя мапы могілак, шукаць патрэбныя магілы стане крыху прасцей. Шмат якія могільнікі ў Аўстраліі, Канадзе маюць сайты, пошукавыя сістэмы, выкладаюць у сеціва здымкі надмагілляў.


Фота Алены Казловай

**– Якую інфармацыю нясуць беларускія пахаванні?**

– Беларускія пахаванні могуць распавесці не толькі пра асобу спачылых беларусаў, але і пра эміграцыйныя грамады наогул. Можна нават дэмаграфічную характарыстыку тых грамадаў рабіць, фіксаваць вагу розных пакаленняў у грамадзе, сярэднюю працягласць жыцця і інш. Пахаванні беларускіх эмігрантаў у розных краінах маюць свае адметнасці. Знешні выгляд надмагілляў аўстралійскіх беларусаў адрозніваецца ад больш сціплых надмагілляў амерыканскіх. Аднак мяне цікавілі менавіта пазнакі беларускасці. У тэкстах беларускіх надмагілляў можна сустрэць вершы айчынных класікаў ці эміграцыйных аўтараў, радкі з песень. Бываюць кур'ёзы з цытатамі, прыкладам, на адным надмагіллі ў Мельбурне радкі знакамітай песні Сержука Сокалава-Воюша прыпісаныя мясцоваму беларусу, які, відавочна, іх вельмі любіў. Змагарны пафас у эпітафіях падмацоўваецца выкарыстаннем адпаведнай сімволікі – выявы Пагоні, бел-чырвона-белага сцягу. Але ў цэлым дамінуе рэлігійная сімволіка, вельмі пашыраны ефрасіньеўскі крыж. Сярод свецкіх нацыянальных сімвалаў выкарыстоўваюцца васількі, каласы і арнамент.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"».**
**Надрукавана ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны

# БЕЛАРУСЫ ПАМЯТАЮЦЬ ПРА ЗАГІНУЛЫХ ПРЫ МОНТЭ-КАСІНА

Тысячы беларускіх жаўнераў Другой сусветнай вайны адважна змагаліся з нацызмам у шэрагах польскай арміі генерала С. Андэрса.

19 траўня 1944 г. пасля шматдзёнкай атакі з удзелам амерыканскай авіяцыі, індыйскіх, новазеландскіх, аўстралійскіх, брытанскіх войскаў і польскай арміі, умацаваная вышыня ў кляштары Монтэ-Касіна, што знаходзіцца на поўнач ад Рыма, была занятая. Беларускія жаўнеры ў шэрагах польскай арміі выявілі бясстрашша і рашучасць. Яны наступалі аднымі з апошніх. Большасць удзельнікаў штурму па-геройску загінулі і былі пахаваныя на створаных пасля гэтай бітвы могілках. Пасля вайны ўрад Польшчы збудаваў на гары мемарыял памяці герояў. Ні адзін загінулы жаўнер Беларусі не застаўся беспамятна пахаваны. Кожны мае сваю магілу, свой крыж з імем, прозвішчам і месцам нараджэння.

Штогод да мемарыялу з розных краін свету прыязджалі ветэраны, каб ушанаваць памяць сваіх сяброў-аднапалчан. Гадоў дзесяць таму тут можна было ўбачыць і беларускіх ветэранаў з розных краін, але час няўмольны, і цяпер ужо ўсе ветэраны-беларусы адышлі ў іншы свет. Нагадаем, што айцец Аляксандр Надсан быў самым маладым удзельнікам штурму Монтэ-Касіна. У гэтай аперацыі прымаў удзел і будучы беларускі спявак П. Конюх. А ў апошнія гады на мемарыяле з'явілася магіла генерала С. Андэрса… Але жыццё працягваецца і да мемарыялу працягваюць прыязджаць людзі, каб ушанаваць памяць ахвяр нацызму. Гэта робіцца і з ініцыятывы дзяржаў, і з боку грамадскіх арганізацый. Да магілак герояў ускладаюць кветкі, сцягі ды іншыя адзнакі памяці.

Вось ужо трэці год запар патрыятычныя арганізацыі і прадстаўнікі грамадскасці з Беларусі бяруць удзел у мерапрыемствах па ўшанаванні памяці ўсіх, хто аддаў свае жыцці за свабоду Еўропы, свабоду Італіі і свабоду Беларусі. На пачатку ліпеня да мемарыялу былі ўскладзены кветкі, беларускі сцяг і эпітафія з стужкай ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**Мікола Купава, мастак,**
**сябра Вялікай Рады**
**МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны

# АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА З ВЯЧКАМ ЦЕЛЕШАМ

У Ваўкавыскай раённай бібліятэцы прайшла сустрэча з мастаком, мастацтвазнаўцам, краязнаўцам, грамадскім дзеячом, членам Саюзаў мастакоў Беларусі і Латвіі, сябрам Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Вячкам Целешам.

Падчас двухгадзіннай сустрэчы адбылася прэзентацыя яго кнігі "Адсюль наш род, тут мой прычал". Аўтар прадстаўляў яе ўжо ў Рызе, Гродне, Краснасельскім і ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску, зараз чарга дайшла да Ваўкавыска. Акрамя таго, Вячка Целеш коратка распавёў аб сваёй творчай біяграфіі, адказаў на шматлікія пытанні прысутных, а таксама падарыў двум шчаслівачыкам своеасаблівай латарэі па кнізе. На заканчэнне сустрэчы Вячку Целешу былі ўручаны памятныя сувеніры ад кіраўніцтва раённай бібліятэкі.




**"Наш час"**

навіны

## ГРОДЗЕНСКІЯ НАСТАЎНІКІ ДАПАМОГУЦЬ ВЫВУЧЫЦЬ РОДНУЮ МОВУ БЕЛАРУСАМ У САКРАМЭНТА

Гродзенская СШ №32 і школа з амерыканскага Сакрамэнта будуць супрацоўнічаць у сферы выкладання беларускай мовы. Пра гэта стала вядома па выніках сустрэчы кіраўніцтва Гродзенскага гарвыканкама з дырэктарам школы з амерыканскага горада Сакрамэнта – ураджэнкі Беларусі Ларысы Ганчар.

Падчас круглага стала прадстаўнікі дзвюх школ абмяняліся досведам, падзяліліся сучаснымі метадамі выкладання беларускай мовы. Такое супрацоўніцтва зробіцца пастаянным. Далейшым развіццём адносін можа стаць абмен вучнямі і настаўнікамі, рэалізацыя сумесных адукацыйных праектаў.

**Паводле Сяргея Гаўрыцкага, Гродна, БЕЛТА**

навіны

## 32-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

З 3 да 5 верасня ў Атаве (Канада), адбудзецца 32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, арганізаваная Згуртаваннем беларусаў Канады і Беларуска-амерыканскім задзіночаннем. На Сустрэчы будуць абмяркоўвацца розныя пытанні беларускага жыцця і культуры. Месца правядзення Сустрэчы – гатэль Lord Elgin.

Сярод выступоўцаў – А. Логвін (Атава), С. Раманюк (Кліўленд), А. Макоўская (Мінск), А. Каралькевіч, Г. Сурмач (Нью-Ёрк), Д. Ельяшэвіч (Таронта), П. Сурвіла, Г. Туміловіч і інш.

Удзельнікі змогуць паўдзельнічаць у дыскусіі на тэму "Роля культуры і асветы ў развіцці грамадзянскай супольнасці беларусаў у замежжы", паслухаць барда Віктара Шалкевіча, наведаць музеі Атавы.

**Папярэдняя праграма сустрэчы – на сайце www.belaruscanada.org**

навіны

## "СТАРЫ ОЛЬСА" ЕДЗЕ Ў ГАСТРОЛЬНЫ ТУР ПА АМЕРЫЦЫ

Тур будзе праходзіць з сярэдзіны жніўня да пачатку кастрычніка. Першы канцэрт адбудзецца ўжо 19 жніўня ў Сан-Францыска, дзе гурт прэзентуе свой новы альбом рок-кавераў у сярэднявечным стылі "Medieval Classic Rock". Расклад канцэртаў:

Aug 19: San Francisco, CA.
Aug 20: Napa, CA.
Aug 21–22: Ashland, OR (Oregon Shakespeare Festival)
Aug 23: Portland, OR.
Aug 24: Duvall, WA
Aug 26–27: Lehi, UT (Utah Renaissance Faire)
Aug 29: Denver, CO.
Aug 30: North Platte, NE
Aug 31: Lincoln, NE
Sept 3–5: Minneapolis, MN (Minnesota Renaissance Festival)
Sept 8: Des Moines, IA
Sept 10–11: Kansas City, KS (Kansas City Renaissance Festival)
Sept 13: Chicago, IL.
Sept 17: Colchester, VT (Vermont Renaissance Fair)
Sept 19: Cambridge, MA
Sept 21: Brooklyn NY.
Sept 25: Greenbelt, MD
Sept 26:Columbia, MD
Sept 28: Media, PA
Sept 30: Charlottesville or Raleigh, VA
Oct 2: Fayetteville, NC
Oct 4: Cullman, AL
Oct 7: Austin, TX
Oct 8–9: Houston, TX (Texas Renaissance Festival)

**Падрабязней на афіцыйным сайце гурта: http://staryolsa.com/by/afisha.html**

навіны "Будзьма!"

## НАІП УЗНАГАРОДЖАНАЯ СПЕЦЫЯЛЬНЫМ ПРЫЗАМ ФЕСТЫВАЛЮ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ РЭКЛАМЫ І КАМУНІКАЦЫІ

Новы праект Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі – кулінарная кніга бізнес-рэцэптаў ад топ-менеджараў вядучых замежных кампаній-інвестараў "BUSINESS IN BELARUS. RECIPE BOOK" – быў адзначаны дыпломам 7-га Фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі і атрымаў спецыяльны прыз "За смачны ўнёсак у стварэнне пазітыўнага вобразу краіны ў свеце".

Кніга "BUSINESS IN BELARUS. RECIPE BOOK" заснаваная на дванаццаці рэальных гісторыях стварэння бізнесу замежнымі кампаніямі, якія змаглі паспяхова рэалізаваць у Беларусі свае інвестпраекты. На старонках выдання вядучыя прадпрымальнікі дзеляцца не толькі асабістымі гісторыямі поспеху, але і любімымі рэцэптамі страў беларускай кухні.

Нагадаем, прэзентацыя праекта www.business-recipe-book.by адбылася ў чэрвені на выставе SPIEF Investment Projects, якая была арганізавана ў межах XX Пецярбургскага міжнароднага эканамічнага форуму.

## ВІНШУЕМ ЯНКУ ЗАПРУДНІКА З ЮБІЛЕЕМ!

9 жніўня 90-гадовы юбілей святкуе сябра Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", адзін з найвыбітнейшых дзеячаў беларускай эміграцыі, гісторык і публіцыст доктар Янка Запруднік.

Спадар Янка нарадзіўся ў 1926 годзе ў мястэчку Мір (цяпер Карэліцкі раён) у сям'і настаўнікаў. У акупацыю скончыў Баранавіцкую прагімназію, потым вучыўся ў Баранавічах у гандлёвай школе, належаў да СБМ. У 1944 годзе апынуўся ў Германіі, дзе да траўня 1946 года знаходзіўся ў лагеры для ваеннапалонных у амерыканскай зоне акупацыі. Пасля палону знаходзіўся ў лагеры для перамешчаных асоб у Рэгенсбургу і Міхельсдорфу. Там жа, у лагеры, скончыў у 1947 годзе Беларускую гімназію імя Янкі Купалы. У студзені 1948 года выправіўся ў Вялікабрытанію, працаваў там на шахтах. Далучыўся да дзейнасці Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі, браў удзел у выданні часопіса беларускай моладзі "Наперад!". У 1954 годзе скончыў гістарычны факультэт Лювенскага каталіцкага ўніверсітэта ў Бельгіі. З 1957 года – у ЗША. Пасля заканчэння ўніверсітэта Янка Запруднік пачаў працаваць журналістам беларускай секцыі радыёстанцыі "Вызваленне" (з 1964 года – "Свабода"). Пераехаўшы ў ЗША ў 1957 годзе, спадар Янка працягваў працу на гэтай радыёстанцыі ў Нью-Ёрку да 1991 года. У 1969 годзе абараніў у Нью-Ёркскім універсітэце доктарскую дысертацыю, выкладаў гісторыю ў вышэйшых навучальных установах ЗША. Напісаў дзясяткі навуковых артыкулаў і кніг па гісторыі Беларусі.

"Я знайшоў сэнс жыцця ў службе свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне, беларускай справе. Гэта надае майму жыццю дамэтнасць і прыносіць духовае задавальненне", – гэтак акрэсліў сэнс свайго жыцця доктар Янка Запруднік у адным з сваіх інтэрв'ю.

Шаноўны спадар Янка! Згуртаванне "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе Вас з юбілеем, жадае моцнага здароўя, нязгаснай энергіі, радасці і шчасця, каб Беларусь яшчэ доўгія гады ведала плён ад Вашай руплівай працы!

Шчыра дзякуем за нашае шматгадовае партнёрства і сяброўства.

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны

# КУПАЛЛЕ Ў ЗАМЕЖЖЫ

## Швецыя

Згуртаванне "Беларусы Швецыі" ўжо другі год запар святкуе Купалле ў Стакгольме, на выспе Вінтэрвікен. Гэтым разам свята ладзілі сумесна з арганізацыяй "Украінская моладзь у Швецыі" і пры падтрымцы ўстановы "Studieförbundet vuxenskolan".

Сёлета ўзбуйніўся маштаб мерапрыемства. Свята, якое доўжылася усю ноч, наведалі каля 80 чалавек. Дзякуючы калектыву аматарскага тэатральнага гуртка "Беларусаў Швецыі" дадалося больш тэатралізаваных элементаў. Зладзілі традыцыйную купальскую пастаноўку "Марусіначка", пародыю на паганскае вяселле, а таксама абрад Русаліі.

## Канада

На працягу пятнаццаці гадоў беларуская суполка з Таронта ладзіць Купалле за трыццаць кіламетраў ад гарадка Пары-Саўнд (правінцыя Антарыя) у Доме адпачынку "Слуцак", названага так паваеннымі эмігрантамі ў гонар Слуцкага збройнага чына. Арганізатарамі свята, акрамя дома адпачынку, выступілі фольк-гурт "Яваровы людзі" і Згуртаванне беларусаў Канады.

Гэта, бадай, адзінае беларускае мерапрыемства ў Канадзе, што адбываецца пад адкрытым небам з начоўкай. Людзі з'язджаюцца з усёй Канады, каб хоць на пару дзён апынуцца ў беларускім асяродку. Нягледзячы на наяўнасць катэджа, людзі начуюць у намётах, бо дом не можа змясціць 200 чалавек.

"Яваровы людзі" пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай спявалі купальскія песні. Акцёры лялечнага тэатра "Забава" з Оквіля праводзілі гульні для дзетак. Стрэлы з лука і бойкі падушкамі на бервяне арганізаваў Зміцер Леановіч.

Сёлета Купалле ўпрыгожыў цікавы і незвычайны мастацкі аўтарскі праект ад Наргізы Усманавай "Узоры жыцця".

"Перш за ўсё я хацела зрабіць праект, які б не толькі аб'ядноўваў людзей, але і надоўга запомніўся, – тлумачыць аўтарка. – Вырашылі зрабіць тры вялікія традыцыйныя беларускія ўзоры з удзелам усіх гасцей свята. Узор "Купалле" – сімвал свята, узор "Маці" – нашы карані і краіна, адкуль мы родам, і ўзор "Дзіця" – наша будучыня".

Тры канструкцыі вышынёй у чатыры і шырынёй два з паловай метры кожная былі падвешаныя на дрэвы з падвязанымі ўнізе камянямі для нацягу нітак. 435 размаляваных нашымі ўдзельнікамі



Фота Максіма Зінчука

кружочкаў-элемэнтаў былі падвязаныя на гэтыя ніточкі. Адкрыццё адбылося ўначы, інсталяцыя асвятлялася трыма пражэктарамі і аўта-туманам.

## Чэхія

25-га чэрвеня пражскія беларусы адзначылі Купалле каля сажалкі ў Глоўбеціне. Свята наведала шмат людзей, далучыліся прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў – чэхі, украінцы і расейцы, італьянцы і французы.

Акрамя традыцыйных купальскіх забаваў, зладзілі воркшоп па акварэлі, на якім заахвочаныя спрабавалі намаляваць папараць-кветку.

## Малдова

Беларуская грамада Рэспублікі Малдова сумесна з Рускай суполкай Рэспублікі Малдова трэці год запар адзначылі Купалле, гэтым разам на беразе Днястра ў курортным пасёлку Вадул-луй-Водэ. Сярод гасцей былі прадстаўнікі Пасольстваў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі ў Малдове, Расійскага цэнтра навукі і культуры, прымэры Вадул-луй-Водэ.

Пасля ўрачыстага адкрыцця адбыўся выезд купальскіх персанажаў: бог Сонца і Купала ехалі на конях, світа са сцягамі – побач, і гледачы з радасцю іх віталі. Потым пачаліся купальскія гульні і конкурсы: купальская віктарына, конкурс волатаў, пляценне вянкоў і варажба на іх, распальванне вогнішча. Удзельнікі свята атрымлівалі асалоду ад песняў у выкананні вакальнага ансамблю "Зораньки" з беларускай суполкі, хору вёскі Нова-Траецкае і хору Рускай абшчыны. Пераможцы і большасць удзельнікаў атрымалі прызы.

## Латвія

9 ліпеня 2016 года ў парку Дубровіна, прайшла яркая, маляўнічая тэатралізаваная дзея пад назвай "Беларускае Купалле", арганізаванае даўгаўпілскім Цэнтрам беларускай культуры пры падтрымцы Упраўлення культуры і Цэнтра латышскай культуры, упершыню з такім размахам. Каля імправізаванай сцэны сабралася шмат актыўных гледачоў, якія з вялікім задавальненнем плялі вянкі, пакідалі запіскі на "дрэве жаданняў", падпявалі і танцавалі.

Сцэнар свята, складзены кіраўніцай тэатральнай студыі "Паўлінка" Інэсай Казлоўскай, быў настолькі прадуманы, што двухгадзінны канцэрт прайшоў на адным дыханні.

Пранікнуцца духам купальскага свята гледачам дапамаглі творчыя калектывы: ансамбль беларускай народнай песні "Купалінка" (кіраўнік Вячаслаў Пятроў), танцавальны ансамбль "Лянок" (кіраўніца Вера Сухарава), вакальна-інструментальны ансамбль "Пралескі" (кіраўніца Настасся Малышава), салісты Аляксандр Лапа і Павел Прозар. Натхнёна і душэўна верш "Купалле" прачытала актывістка Тэрэса Паўлава.

Нікога не пакінулі абыякавымі госці з Беларусі. У стылі этна прагучалі некалькі песень у выкананні трыа з Мёраў. У стылёвых этнічных касцюмах, басанож, тры дзяўчыны-прыгажуні скарылі гледачоў прафесійнасцю спеваў і прыгажосцю танцаў. А калі на сцэне зайгралі і заспявалі "Траецкія музыкі", якія ўпершыню прыехалі з Барысава, тут ужо ніхто не змог уседзець. Ансамбль народнай песні, нягледзячы на тое, што з'яўляецца аматарскім калектывам, уразіў усіх запальным выкананнем.

**Паводле Марыі Памецькі (Цэнтр Беларускай Культуры, Даўгаўпілс), Ірыны Азаранкі (Стакгольм), Ірыны Тоўсцік (Канада), Інфармацыйнай службы Беларускай грамады ў Малдове, Грамадскага аб'яднання "Пагоня" (Чэхія)**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2016 ГОДА

1 жніўня – 125 гадоў таму, у 1861-м, памёр Ігнат Ходзька, пісьменнік.

1 жніўня – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Уладзімір Урбановіч, краязнавец, педагог, культуролаг.

2 жніўня – 175 гадоў таму, у 1841-м, нарадзіўся Ян Манцэвіч, вайсковец, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

2 жніўня – 130 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Мікалай Гуткоўскі, грамадскі дзеяч, юрыст.

3 жніўня – 45 гадоў таму, у 1971-м, памёр Янка Маўр (сапр. Іван Фёдараў), пісьменнік.

4 жніўня – 340 гадоў таму, у 1676-м, нарадзіўся Дамінік Рудніцкі, пісьменнік, педагог.

4 жніўня – 15 гадоў таму, у 2001-м, памёр Вячаслаў Адамчык, пісьменнік.

8 жніўня – 40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Мікалай Лапіцкі, рэлігійна-грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

9 жніўня – 160 гадоў таму, у 1856-м, памёр Фларыян Бохвіц, філосаф, пісьменнік.

9 жніўня – 40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Іван Мележ, пісьменнік.

12 жніўня – 80 гадоў таму, у 1936-м, у савецкім канцлагеры памёр Пётр Мятла, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

13 жніўня – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Вінцэнт Склубоўскі, грамадска-культурны дзеяч, актывіст Таварыства беларускай школы, пасля Другой сусветнай вайны працаваў на Беласточчыне.

13 жніўня – 60 гадоў таму, у 1956-м, памёр Якуб Колас, народны паэт Беларусі.

18 жніўня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Макар Краўцоў (сапр. Макар Касцевіч), пісьменнік, удзельнік Слуцкага паўстання.

19 жніўня – 185 гадоў таму, у 1831-м, нарадзіўся Зыгмунт Чаховіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

20 жніўня – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Мікола Хведаровіч, пісьменнік, вязень ГУЛАГу.

20 жніўня – 25 гадоў таму, у 1991-м, у Фларыдзе памёр Баляслаў Грабінскі, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

20 жніўня – 5 гадоў таму, у 2011-м, памёр Віталь Скалабан, гісторык.

22 жніўня – 155 гадоў таму, у 1861-м, нарадзіўся Ігнат Буйніцкі, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатра.

25 жніўня – 25 гадоў таму, у 1991-м, Вярхоўны Савет БССР надаў "Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР" канстытуцыйны статус і прыпыніў дзейнасць Камуністычнай партыі Беларусі.

25 жніўня – 25 гадоў таму, у 1991-м, у Чыкага памёр Вацлаў Панууцэвіч (да эміграцыі Папуцэвіч), гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 жніўня – 15 гадоў таму, у 2001-м, памёр Валерый Маслюк, тэатральны рэжысёр.

27 жніўня – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн, пісьменнік.

29 жніўня – 260 гадоў таму, у 1756-м, нарадзіўся Ян Снядэцкі, астраном, матэматык, філосаф.

31 жніўня – 20 гадоў таму, у 1996-м, памёр Пятрусь Макаль, літаратар.

**навіны "Будзьма!"**

# СЁМЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ РЭКЛАМЫ І КАМУНІКАЦЫІ ADNAK!: ГЕН КРЭАТЫЎНАСЦІ АБУДЖАНЫ!

Канцэпцыя сёлетняга фестывалю: "aDNaK! – ген беларускага крэатыву". Гэткім чынам арганізатар – грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" – заклікае ствараць рэкламу і будаваць камунікацыю на грунце тысячагадовых каштоўнасцяў, закладзеных у нашых генах.




Фота Зарыны Кандрацьевай

aDNaK! – незвычайны фестываль. Ён мае высокі сацыяльны складнік, які заключаецца не толькі ў бясплатным характары ўсіх мерапрыемстваў, але яшчэ і ў высокай увазе да сацыяльных і грамадска значных праектаў. Фестываль заахвочвае да стварэння беларускамоўнай і беларусаарыентаванай рэкламы, а гэта патрабуе ад рэкламістаў і спецыялістаў сферы камунікацыі ведання беларускай культуры і гісторыі.

Ген беларускага крэатыву абуджаецца: на вуліцах, у інтэрнэце большае беларускай мовы, расце папулярнасць беларускага арнаменту, пры гэтым актыўна выкарыстоўваюцца новыя сродкі камунікацыі.

Сёлета Фестываль прайшоў праверку на запатрабаванасць: сродкі на яго правядзенне збіраліся праз краўдфандынгавую пляцоўку Ulej.by. І праект стаў паспяховым. Цягам двух месяцаў беларускія рэкламісты і аўтары культурніцкіх і камунікацыйных праектаў мелі магчымасць падаць сваю працу на разгляд прафесійнага журы, якое ў гэтым годзе істотна абнавілася і складалася не толькі з прадстаўнікоў рэкламных агенцтваў Беларусі, але і вядомых асобаў з бізнесу і культуры, СМІ, экспертаў з іншых сфераў.

Сёлета на Фестываль было пададзена 285 заявак ад 135 удзельнікаў. Падаваліся толькі новыя работы.

Агульная статыстыка Фестывалю: 1 месцы – 16; 2 месцы – 32; 3 месцы – 42; 3 Гран-пры; 2 спецпрызы.

Журы працавала з імпэтам, адбор прац адбываўся ў дыскусіях. Ніводны праект не застаўся без належнай увагі. Найбольш папулярнымі сярод удзельнікаў конкурсу былі намінацыі "Грамадска значныя праекты" і "Беларускаарыентаваны рэкламны і камунікацыйны праект", у кожную з якіх было пададзена па 30 работ, сярод якіх нямала праектаў дастаткова высокага ўзроўню. Высокую ацэнку журы атрымалі праекты, якія разам з крэатыўным і якасным увасабленнем мелі добрыя вынікі. Напрыклад, дасягнулі мэты па продажы пэўнай колькасці вырабаў ці кантактаў з аўдыторыяй.

Фінальны дзень Фестывалю праходзіў у першым у Беларусі крэатыўным хабе "Корпус 8". Ад самай раніцы ў фармаце нон-стоп тут праходзіла адметная адукацыйная праграма з удзелам вядомых беларускіх і замежных спецыялістаў. Хэдлайнерам праграмы стаў Давар Руне (Davor Runje), сузаснавальнік харвацкага digital-агенцтва DRAP, якое за час свайго існавання з 2008 года атрымала найбольшую колькасць фестывальных узнагарод у сваёй краіне.

Пасля адукацыйнай праграмы распачалася цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Сёмага фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі aDNaK!, якую праводзілі нязменныя вядучыя Ганна Хітрык і Павал Харланчук-Южакоў. Удзельнікаў чакалі таксама музычныя падарункі ад гуртоў :B:N: і Akute і вядомага DJ Laurel, а таксама цікавосткі ад партнёраў Фестывалю.

### Крыху пра Фестываль

За сем гадоў Фестываль aDNaK! стаў трывалай камунікацыйнай пляцоўкай, якая збірае прафесіяналаў і навічкоў рэкламнага рынку Беларусі. aDNaK! развіваецца ў адпаведнасці з сусветным трэндам – Glocal (спалучэнне глабальнага і лакальнага), матывуе бізнес і рэкламістаў працаваць у сусветным рэчышчы, адначасова шукаючы у лакальным цікавыя ідэі і рашэнні, якія становяцца запатрабаванымі і эфектыўнымі на глабальным узроўні.

### aDNaK-7 – гэта:

– выяўленне і актывізацыя беларускага крэатыўнага коду, вылучэнне адметных рысаў беларускамоўнай рэкламы;

– фіксацыя працэсаў эвалюцыі беларускага рэкламнага рынку;

– своеасаблівая "прышчэпка беларускасці" для рэкламістаў, кліентаў і спажыўцоў.

## Павел Шарамет (1971– 2016)

20 ліпеня ў Кіеве ў выніку выбуху машыны загінуў вядомы беларускі журналіст Павел Шарамет.

Павел Шарамет нарадзіўся 28 лістапада 1971 года. Працаваў у Расіі і Украіне, быў адным з заснавальнікаў вэб-сайта "Беларускі партызан", аўтар (сумесна з Святланай Калінкінай) кнігі "Случайный президент". Аўтар дакументальных фільмаў "Чачэнскі дзённік", "Дзікае паляванне", "1991 – Апошні год імперыі", "Апошняя вышыня генерала Лебедзя", "Карэйскі капкан", "Споведзь ката", "СНІД. Смерць з адкрытай датай".

У 1994–1995 гадах быў аўтарам і вядучым штотыднёвай аналітычнай праграмы "Праспект" на Беларускім тэлебачанні. Атрымаў у 1995 годзе прэмію Беларускага ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча як найлепшы тэлевізійны журналіст Беларусі.

У жніўні 1995 – жніўні 1996 – галоўны рэдактар "Беларускай дзелавой газеты".

З верасня 1996 – супрацоўнік тэлекампаніі ОРТ: кіраўнік Беларускага бюро ОРТ, шэф-рэдактар аддзелу карэспандэнцкай сеткі ОРТ, намеснік дырэктара "Дырэкцыі інфармацыйных праграм ОРТ". З ліпеня 1999 па сакавік 2000 быў вядучым аналітычнай праграмы "Время" ОРТ.

У 1997 годзе атрымаў прэмію Міжнароднага камітэта абароны журналістаў за ўнёсак у развіццё свабоды слова.

У 1998 годзе быў асуджаны беларускім судом на тэрмін два гады ўмоўна за рэпартаж з беларуска-літоўскай мяжы. У 2002 годзе атрымаў прэмію Парламенцкай асамблеі АБСЕ "За журналістыку і дэмакратыю".



З 2009 года быў рэдактарам аддзела палітыкі і грамадства ў часопісе "Огонёк". У 2011 годзе Шарамет быў вядучым перадачы "Прысуд" на тэлеканале "РЕН ТВ".

З 2012 года пачаў весці блог журналіста ў інтэрнэт-газеце "Українська правда". З 2015 года быў вядучым на ўкраінскай радыёстанцыі Радыё "Вести", спачатку па выхадных у праграме "Шоу Павла Шеремета", потым па буднях у праграме "Ранок Павла Шеремета".

Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

***

24 ліпеня ў саборы св. Кірылы Тураўскага (Нью-Ёрк, ЗША) прайшла паніхіда ў памяць забітага Паўла Шарамета і мерапрыемства, прысвечанае ўшанаванню яго памяці.

З прамовай пра жыццё і прафесійную дзейнасць выступіла Святлана Казачок. Да прагляду былі прадстаўленыя мемарыяльныя відэа.

**Беларусы ў свеце**
No 7 (170), ліпень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27